Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 27 студзеня 1999 г. № 9 (540) Кошт свабодны

## На пратэст выходзяць рабочыя

**Сёння, 27 студзеня, у Мінску пройдзе акцыя пратэсту прафсаюзаў. Арганізатары разлічваюць, што ў ёй будуць удзельнічаць да 15 тысяч чалавек.**

Збор удзельнікаў акцыі, санкцыяванай асабіста старшынёй Мінгарвыканкама Уладзімірам Ярмошыным, пройдзе ў некалькіх пунктах сталіцы, у тым ліку на плошчы Якуба Коласа, з 15.30 да 16.00 гадзінаў. Потым калоны маніфестантаў — кожная сваім маршрутам — накіруюцца да Палаца спорту, дзе з 17.00 да 18.00 гадзінаў запланаванае правядзенне мітынгу.

Ініцыятарамі акцыі выступілі пяць буйнейшых рэспубліканскіх прафсаюзаў прамысловасці — работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання, радыёэлектронікі, абароннай прамысловасці, прафсаюз металістаў, а таксама машына- і прыборабудавання. Далучыліся таксама прадстаўнікі шэрагу іншых прафсаюзных арганізацыяў, у тым ліку незалежных прафсаюзаў.

Акцыя пройдзе пад лозунгам «Не — збяднанню народа!». Рабочыя маюць намер запатрабаваць ад уладаў спыніць рост цэнаў і інфляцыі, павялічыць памер зарплаты і аднавіць яе пакупніцкую здольнасць, а таксама выканаць усе папярэднія патрабаванні прафсаюзаў, што неаднаразова гучалі на рэспубліканскіх сходах і мітынгах — у тым ліку і аб прадастаўленні прафсаюзам доступу да СМІ.

*БелаПАН*

## Хрысціянская моладзь за выбары прэзідэнта

***Маладзёжны хрысціянскі сацыяльны саюз падтрымае кампанію па выбарах прэзідэнта ў 1999 годзе***

Справаздачна-выбарчая канферэнцыя Маладзёжнага хрысціянскага сацыяльнага саюза, што адбылася ў Гомелі 24 студзеня, прыняла рашэнне падтрымаць ініцыятыву Вярхоўнага Савета 13-га склікання аб правядзенні ў траўні гэтага года прэзідэнцкіх выбараў. Па словах старшыні Саюза Кірыла Ігнаціка, члены арганізацыі будуць браць удзел у фарміраванні выбарчых камісіяў па выбарах прэзідэнта. Апрача таго, вырашана не прымаць удзелу ў выбарах у мясцовыя Саветы, бо, на думку членаў гэтай маладзёжнай арганізацыі, новы закон аб мясцовых выбарах з'яўляецца недэмакратычным пасля ўвядзення ў яго пункта аб немагчымасці балатавацца ў дэпутаты грамадзянам, што прыцягваліся да адміністратыўнай адказнасці.

*БелаПАН*

## Крадуць, бо не маюць за што купіць

**Начальнік мінскай міліцыі Барыс Тарлецкі на ўчарашняй прэс-канферэнцыі распавёў, што нестабільная эканамічная сітуацыя ў краіне вядзе да «павышэння актыўнасці прафсаюзных рухаў і палітычных партыяў».**

Сёння міліцыя будзе сачыць за парадкам падчас правядзення акцыі прафсаюзаў, якія абяцалі вывесці на вуліцу каля 30 тысяч чалавек. Аднак і меншая колькасць дэманстрантаў прынясе клопаты ахоўнікам парадку. Як адзначыў Б.Тарлецкі, *«людзі выходзяць на вуліцу не з песнямі, а са сваімі праблемамі»*. А гэтых праблемаў шмат. Як сведчыць статыстыка начальніка ГУУС, *«амаль кожны дзень фіксуюцца злачынствы, звязаныя з крадзяжом прадуктаў харчавання»*.

Барыс Тарлецкі папрасіў журналістаў «не пужаць насельніцтва ўзроўнем злачыннасці», але звярнуў асаблівую ўвагу на значны рост злачынстваў, звязаных з наркотыкамі. У мінулым годзе іх выяўлена больш за 600. Усё часцей гэтую атруту спажываюць непаўналетнія і маладыя людзі, асабліва на дыскатэках і ў начных клубах. Менавіта наркотыкі становяцца асноўнай прычынай суіцыдаў. Калі раней найбольш распаўсюджанай была макавая саломка, то з лета мінулага года амаль кожны дзень затрымліваліся асобы, якія мелі гераін. За распаўсюджанне наркотыкаў да крымінальнай адказнасці летась прыцягнутыя 133 чалавекі.

Сталічнай міліцыі пакуль не ўдалося стабілізаваць сітуацыю па забойствах, колькасць якіх павялічылася на 0,7 працэнта. Большая частка цяжкіх злачынстваў здзейснена пасля ўжывання алкаголю.

Значную ўвагу мінская міліцыя ўдзяляла барацьбе з валютчыкамі. У гэтай сферы ўзбуджана 207 крымінальных справаў, а 722 парушальнікі прэзідэнцкага дэкрэта абышліся адміністратыўным арыштам. Штрафы за валютныя аперацыі склалі каля 25 мільярдаў рублёў, у прыбытак казны накіраваныя сканфіскаваныя грошы: амаль 155 тысяч долараў ЗША, 21 тысяча нямецкіх марак, а таксама каля 18 мільярдаў беларускіх рублёў.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**



## Следам за Селязнёвым

**Сёння ў Мінск прыбывае спікер украінскага парламента Аляксандр Ткачэнка.**

На заўтра запланаванае яго выступленне перад лукашэнкаўскімі дэпутатамі, прысвечанае сітуацыі на Украіне.

Праграма візіту Ткачэнкі паўтарае тое, што рабіў падчас прыезду ў Беларусь спікер расійскай Дзярждумы Генадзь Селязнёў. Таксама як расійскі калега, пасля сустрэчаў у «парламенце» Аляксандр Ткачэнка запрошаны на аўдыенцыю да прэзідэнта Лукашэнкі.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Газ можа патаннець

**«Газпром» зніжае для Беларусі цану за пастаўкі прыроднага газу.**

З 1 лютага прыродны газ, што пастаўляецца ў Беларусь расійскім акцыянерным таварыствам «Газпром», будзе каштаваць 40 долараў ЗША за 1.000 кубаметраў (у мінулым годзе гэты кошт быў 50 долараў ЗША). Пра гэта паведамляецца ў тэлеграме, якую атрымаў прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг ад кіраўніка «Газпрома» Рэма Вяхірава.

Па некаторых звестках, новая цана за прыродны газ яшчэ не канчатковая, паколькі ўсё будзе залежаць ад дамоўленасцяў на ўзроўні прэзідэнтаў дзвюх краінаў — Аляксандра Лукашэнкі і Барыса Ельцына.

*БелаПАН*

# Дэмакраты плануюць перамогу

**Арганізатары Кангрэса дэмакратычных сілаў сцвярджаюць, што ў іх ёсць план дзеянняў, які дазволіць вярнуць Беларусь на шлях дэмакратыі.**

Апошнюю напярэдадні форуму прэс-канферэнцыю правялі ў аўторак арганізатары Кангрэса дэмакратычных сілаў Беларусі. «Пасля невялікіх канвульсій Мінгарвыканкам усё ж даў канчатковы дазвол на правядзенне Кангрэса 29—30 студзеня ў палацы культуры «Сукно». Такім чынам, праца Кангрэса пачнецца ў пятніцу а 14-й гадзіне», — абвесціў журналістам старшыня аргкамітэта Кангрэса Генадзь Карпенка. Далей ён падрабязна пералічыў і пракаментаваў дакументы, якія будуць прапанаваныя для разгляду ўдзельнікам Кангрэсу. Гэта будуць рэзалюцыі аб заханні дзяржаўнасці, кансалідацыі дэмакратычных сілаў, аб становішчы ў эканоміцы, аб сітуацыі з правамі чалавека і міжнароднымі зносінамі. Асобны дакумент будзе прысвечаны становішчу, у якім апынулася родная беларуская мова.

Між тым, не толькі прынятце гэтых ужо ўзгодненых паміж партыямі дакументаў зробіць Кангрэс важнай палітычнай падзеяй, лічаць арганізатары. Яны сцвярджаюць, што на гэты раз не проста «пашумяць і разыдуцца», а прымуць праграму дзеянняў, якая ў выпадку рэалізацыі выведзе Беларусь на шлях дэмакратыі. Абрысы такой праграмы ўжо ёсць. Дэлегаты ад дэмакратычных партыяў і грамадскіх арганізацыяў яе абмяркуюць, падправяць і зацвердзяць, упаўнёныя арганізатары Кангрэса. А для ажыццяўлення праграмы будзе абрана — каардынацыйная рада.

Што яшчэ адрознівае сёлетні Кангрэс ад такога ж форуму 1996 года — гэта зусім іншы палітычны момант, сцвярджае былы намеснік міністра замежных справаў Андрэй Саннікаў. «З 20 ліпеня прэзідэнт Лукашэнка губляе сваю легітымнасць, і ў выпадку, калі не будзе абраны новы прэзідэнт, кіраўніком дзяржавы становіцца старшыня Вярхоўнага Савета. Гэта вынікае з Канстытуцыі 1994 года, якую прызнае ўся Еўропа. Адсюль у апазіцыі ўзнікаюць новыя магчымасці. Мы будзем звяртацца ў краіны Еўропы, каб яны не прызнавалі беларускіх паслоў, якія ў той час будуць прадстаўляць ужо нелегітымную ўладу», — паведаміў Андрэй Саннікаў і ўзгадаў, што гістарычны вопыт такіх уздзеянняў на дыктатарскія рэжымы ёсць, і ім трэба карыстацца. «1999 год будзе вырашальны ў барацьбе за дэмакратыю. Мы бачым, што ў дэмакратычных сілаў ёсць добрыя перспектывы. Для іх выкарыстання трэба аб'ядналца і дзейнічаць. З гэтай мэтай мы і праводзім наш форум», — зазначыў напрыканцы канферэнцыі сакратар аргкамітэта па правядзенні Кангрэса дэмакратычных сілаў Юрый Захаранка. Ён заклікаў грамадзянаў Беларусі падтрымаць Кангрэс на мітынгу, які пройдзе ў суботу а 16-й гадзіне каля сталічнага Опернага тэатра.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Цэнтрвыбаркам атрымае сродкі

**У адным з маскоўскіх банкаў адкрыты спецыяльны рахунак для пералічэння добраахвотных сродкаў на правядзенне ў Беларусі прэзідэнцкіх выбараў у траўні гэтага года. Пра гэта паведаміў старшыня Цэнтрвыбаркама па выбарах прэзідэнта Віктар Ганчар.**

Па словах В.Ганчара, палажэнне аб стварэнні пазабюджэтнага выбарчага фонду пакуль толькі распрацоўваецца прававым кансультатыўным саветам пры Цэнтрвыбаркаме пад кіраўніцтвам вядомага ў Беларусі юрыста Гары Паганяйла. Старшыня Цэнтрвыбаркама адзначыў, што на рахунку ўжо дастаткова сродкаў для фінансавання дзейнасці Цэнтральнай выбарчай камісіі і тэрытарыяльных камісіяў, якія ствараюцца па ўсёй рэспубліцы.

Выступаючы на пасяджэнні Нацыянальнага выканаўчага камітэта, В.Ганчар таксама паведаміў пра свае перамовы з лідэрам Беларускага Народнага Фронту Зянонам Пазняком, што прайшлі на мінулым тыдні ў Варшаве. З.Пазняк, па словах Ганчара, даў згоду на выкарыстанне структураў БНФ пры фарміраванні раённых, гарадскіх і раённых у гарадах выбарчых камісіяў. Так, ужо цяпер у 120 раёнах і ва ўсіх абласных цэнтрах рэспублікі, за выключэннем Віцебска, БНФ вылучыў сваіх прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі. Па словах В.Ганчара, калі да 24 лютага мясцовыя выканаўчыя і прадстаўнічыя органы ўлады не зацвердзяць спісы тэрытарыяльных камісіяў, то 25 лютага гэта на сваім пасяджэнні зробіць Цэнтрвыбаркам.

*БелаПАН*

# Вельмі сумныя вынікі

**Вынікі мінулага года пацвярджаюць меркаванне шматлікіх аналітыкаў аб заганнасці эканамічнай палітыкі Лукашэнкі.**

Заданне па росту ВУП выканана «цюцелька ў цюцельку»: яго памер, калі верыць афіцыйнай статыстыцы, склаў 108 працэнтаў ад узроўню 1997 года. Аднак беларускі экспарт скараціўся.

Што гэта азначае? Па-першае, у дзяржаўную скарбніцу зменшылася паступленне валюты, таму вельмі цяжка ажыццяўляць так званы крытычны імпарт, купляць тое, без чаго не могуць працаваць прадпрыемствы. Напрыклад, закупкі збожжа ў параўнанні з 1997 годам зменшыліся на чвэрць, і таму на птушкафабрыках не хапае кармоў. Галодныя куры, вядома, не прыбаўляюць у вазе і не нясуць яек.

Па-другое, калі няма каму прадаць прамысловыя вырабы, губляе ўсякі сэнс нарошчванне аб'ёмаў вытворчасці. Гэта зразумела кожнаму. Але ўлады патрабуюць: давай, давай! Вось і «дадаваліся»: за год запасы гатовай прадукцыі на складах павялічыліся ў 1,5 раза. А станкабудаўнікі наогул паўтара месяца працавалі «на склад».

Вядома, ад такой «плённай» працы прыбытку няшмат. Таму грошай на зарплату не хапае. А «прэзідэнцкую» прыбаўку да заробку адразу з'ядае інфляцыя. У лістападзе, напрыклад, цэны падскочылі на 25%, у снежні — на 22%. Таму рэальны памер заробкаў у лістападзе, у параўнанні з кастрычнікам, паменшыўся амаль на 10% і нават не дасягнуў узроўню лістапада 1997 года. Вось такі сумны вынік нашага хуткага развіцця.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**



# 450 мільярдаў птушкам

**На плечы кіраўнікоў магілёўскіх прадпрыемстваў ускладзена задача пракарміць калгасныя птушкафермы.**

Магілёўскія ўлады абавязалі мясцовыя прамысловыя прадпрыемствы закупіць для птушкагадоўлі вобласці 30 тысяч тон фуражнага збожжа на суму 450 мільярдаў рублёў. Агульнымі намаганнямі пакуль сабрана ўсяго 7 мільярдаў. Зрэшты, нават выкананнем гатай задачы «галаўны боль» у магілёўскіх прамыслоўцаў не зменшыцца. Прадугледжваецца яшчэ адзін грашовы збор, санкцыяваны асабіста старшынёй вобласці. Размова ідзе аб закупцы 100 камбайнаў для вёскі. Як нядаўна заўважыў намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама Мікалай Жук, «прадпрыемствы павінны падзяліцца сваімі даходамі з вёскай».

*БелаПАН*

# «Зімовы прызыў» для Беларусі

**Больш за 400 тысяч долараў перадалі Беларусі нацыянальныя таварыствы Чырвонага Крыжа Даніі, Вялікабрытаніі і Нідэрландаў для падтрымкі малазабяспечаных слаёў насельніцтва.**

Міжнародная федэрацыя таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца праводзіць у Беларусі дабрачынную акцыю «Зімовы прызыў». Па звестках з Мінскага прадстаўніцтва федэрацыі, на просьбу аб дапамозе ўжо адгукнуўся Чырвоны Крыж Даніі, які ахвяраваў 79 тысяч долараў ЗША. Галандскі Чырвоны Крыж выдзеліў 180 тысяч долараў, а ўрад Вялікабрытаніі і англійскі Чырвоны Крыж — 145 тысяч долараў. Такім чынам, у дапамогу малазабяспечаным на Беларусі сабрана 404 тысячы долараў. Датчане і шведы таксама накіравалі ў Беларусь каля 80 тонаў адзення.

*БелаПАН*

# Рэнтген без радыяцыі

**Унікальная рэнтгенаўская сістэма «Пульмаскан -760» для абследавання грудной клеткі распрацавана на рагачоўскім абаронным заводзе «Дыяпраектар».**

У новым апараце доза шкоднага апраменьвання, якую атрымлівае кожны пацыент падчас рэнтгену, значна зменшылася. «Пульмаскан -760» — адзіная ў свеце рэнтгенаўская ўстаноўка, у якой дозавая нагрузка ў 500 разоў ніжэйшая за любыя аналагі. Новым флюарографам ужо зацікавіліся за мяжой, дырэктар завода атрымаў віншаванне нават ад амерыканскага прэзідэнта Біла Клінтана.

Цікава, што для работы «Пульмаскана-760» не патрэбная дарагая плёнка — дадзеныя адразу перадаюцца на манітор камп'ютэра. На заводзе падлічылі, што толькі за кошт гадавой эканоміі на плёнцы акупіцца ўстаноўка новых апаратаў ва ўсёй Беларусі.

**А.Ж.**

# Даведаемся ў будучым

**Беларусь ведае пра свае нетры нашмат менш, чым аднолькавая з ёю па плошчы Вялікабрытанія, — сцвярджае галоўны геолаг ВА «Белгеалогія» Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Пётр Хоміч.**

П.Хоміч распавёў журналістам, што *«калі мы валодаем картай геалагічных даследаванняў сваёй рэспублікі ў маштабе 1:200.000, то іншыя еўрапейскія краіны валодаюць падобнымі картамі маштабу 1:50.000, а то і 1:10.000»*. Па словах галоўнага геолага краіны, гэта азначае, што разведанасць нетраў Беларусі не вельмі высокая. Праблема заключаецца ў тым, што самыя каштоўныя рудныя карысныя выкапні залягаюць у нетрах рэспублікі даволі глыбока. Сённяшняя эканаміча немэтазгодна бурыць свідравіны глыбінёй больш за пяцьсот метраў. *«Толькі больш танныя метады здабычы гэтых рудаў, якія пакуль не распрацаваныя, дапамогуць у будучым павялічыць глыбінансць даследаванняў»*, — падкрэсліў П.Хоміч.

*БелаПАН*

# Саюз турмы і бізнесу

**Адміністрацыя калоніі строгага рэжыму ў Ваўкавыску (Гродзенская вобласць) мае намер наладжваць вытворчасць на сваёй тэрыторыі з дапамогай недзяржаўных структураў.**

У мінулыя выхадныя дэлегацыя Мінскага гарадскога саюза прадпрымальнікаў і работадаўцаў на чале з прэзідэнтам Уладзімірам Карагіным пабывала ў калоніі строгага рэжыму N 4, размешчанай у Ваўкавыску Гродзенскай вобласці, дзе ўтрымліваюцца 3.838 зняволеных. Паездку арганізавала адміністрацыя калоніі, зацікаўленая ў развіцці вытворчасці на сваёй тэрыторыі з дапамогай недзяржаўных структураў.

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі 25 студзеня У.Карагін, сталічныя прадпрымальнікі азнаёміліся з умовамі ўтрымання зняволеных, вытворчай базай калоніі, магчымасцю арганізацыі вытворчасці, наведалі дзеючыя цэхі — дрэваапрацоўчы, электрамеханічны і цэх па вытворчасці мяккай мэблі. З агульнага аб'ёму вытворчых магутнасцяў у гэтым часе у калоніі задзейнічана не больш за 20 працэнтаў. Па словах Карагіна, цікавасць да ўдзелу ў развіцці вытворчасці на тэрыторыі калоніі ўжо праявіла таварыства з абмежаванай адказнасцю «Пеола-М» з Мінска, якое працуе ў сферы вытворчасці абсталявання сродкаў сувязі.

*БелаПАН*

# Ці можна есці фольгу за 15 тысяч?

**Дзіўная сітуацыя склалася з рэалізацыяй аднаго з відаў прадукцыі Полацкага малочнага камбіната.**

Ужо даволі даўно гэтае прадпрыемства пачало выпуск глазураваных сыркоў, якія карысталіся нязменным попытам спажыўцоў. Але зараз іх кошт у дзяржаўных крамах перавысіў 25 тысяч рублёў. Як паведамілі на камбінаце, большую частку кошту складае... фольга, з якой выраблена прыгожая каляровая абгортка сыркоў. Апошнім часам цэны на яе рэзка падскочылі, і гэта адбілася на кошце прадукцыі. Сам сырок каштуе каля 10 тысяч. Дык навошта вымушаць людзей набываць бліскучую, але нікому не патрэбную фольгу? Ці яе таксама можна есці?

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ**

# Абед за 20 тысяч

**Усяго 20 тысяч рублёў на адно дзіця выдаткоўваецца ў Магілёве з бюджэту на школьнае харчаванне.**

За такія грошы дзіця можа атрымаць лустачку батона, 50-грамовую катлету ці кавалачак рыбы і шклянку кампоту. За школьны абед бацькам даводзіцца даплачваць па 50 тысяч у дзень, а ў многіх сем'ях даходаў на гэта проста не хапае.

У гэтых умовах кіраўнікі гарадскога гандлю раяць школьным сталоўкам пераходзіць з мяса на гародніну і сокі. Маўляў, і танней, і больш карысна!

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Нож як сродак выхавання

**Вельмі своеасаблівы метад выхавання ўжыла жыхарка Наваполацка ў дачыненні да свайго 12-гадовага сына.**

За непаслухмянасць і позняе вяртанне дадому жанчына ўдарыла хлопчыка нажом у жывот. На шчасце, пацярпелы застаўся жывы.

Дарэчы, на працягу некалькіх дзён у гарадскую бальніцу Наваполацка паступілі два мужчыны з нажавымі раненнямі, якія яны атрымалі ад уласных жонак. Відаць, сённяшняе жыццё становіцца невыносным нават для нашых цярплівых жанчын.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ**

# Цена двух долларов

Большинство белорусов не защищено не только от бандитского, но и от милицейского произвола. Его жертвами становятся прежде всего далеко не самые богатые. Скорее наоборот. И чем дальше от Минска, тем больше власти у местных «правоохранителей». Это демонстрирует ситуация, в которой оказалась пожилая предпринимательница Анна Владимировна Гриб из поселка Дятлово Гродненской области. Вот что она рассказала нашему корреспонденту.

— 28 февраля стояла на рынке, как всегда, торговала — шоколадками, жвачками. Подходит ко мне паренек из интерната. Я его знаю, Кодыш его фамилия, отсталый в развитии. Подходит ко мне и просит два доллара поменять. Я ему говорю, что я не меняю, да и денег у меня нет, а он все стоит и мне их протягивает. Потом ушел. А ко мне подошли милицейские в штатском, протягивают свои книжечки и говорят, что я совершила незаконную валютную операцию. Я им говорю, что ничего не покупала.

Тут еще милиции понабежало. Завели в участок, в кабинет, стали меня обыскивать. А у меня были только белорусские деньги. Тут мне стало плохо, вызвали «скорую». Врачи приехали, сделали укол и уехали. А в это время на меня составили протокол. Вызвали в кабинет замначальника милиции. Прочитали, что я 50 тысяч российских поменяла. Я там уж кричала — обыскивайте меня, где российские рубли? Но в протоколе записали, что я взяла российские рубли у мальчика и заплатила ему 300 тысяч. Сказали подписаться под протоколом. Но я не подписалась. Тогда они засвидетельствовали отказ от подписи.

На этом история только начиналась. Постановлением замначальника Дятловского РОВД Анне Владимировне выписали штраф в размере сначала 12,5 млн. рублей, потом — 20 млн. рублей. Кстати, постановление о штрафе просто бросили в почтовый ящик. Ни Анна Владимировна, ни ее муж-инвалид об этом не знали. В суд ее тоже никто не вызывал. А потом пришли судебные исполнители. Пригрозили, что если не заплатит штраф, то сделают опись и заберут имущество. В это время Анна Владимировна 3 месяца не ходила на рынок — у мужа был инсульт, его положили в больницу.

Анна Владимировна пыталась обжаловать решение в Дятловском суде. Заплатила дятловскому адвокату 700 тысяч за жалобу. Но после подачи жалобы в суд милиция стала беспокоить ее своим вниманием. Анна Владимировна рассказывает:

— Милиционеры приезжают ко мне домой: «Вас вызывает прокурор». Говорят, что меня вообще лишают лицензии, потому что я была оштрафована. Я им говорю: дайте мне хоть пару дней отдохнуть, до субботы, а я к вам потом приду. Я тогда на уколы в больницу ходила. На это они ответили: надо ехать, не то наручники оденем. Потащили меня в машину. Соседи все это видели. Приехала я туда, сказали какие-то бумаги подписать. Я не подписала. Когда забирали, обещали домой отвезти, потому что далеко. А тут пришлось самой идти. Ночью «скорую» вызвала. А назавтра опять приехали забирать.

Обращение Анны Владимировны в суд ни к чему не привело. Показания психически больного несовершеннолетнего мальчика, подтвержденные словами милиционеров, оказались сильнее слов пенсионерки. Не помогло и обращение в Гродненский областной суд, а потом и в Верховный суд.

Ситуация только ухудшалась. Из пенсии Анны Владимировны стали высчитывать 25% на погашение штрафа, и она вообще отказалась от пенсии, чтобы полностью погасить штраф. Решила, что будет ходить на рынок, торговать и жить за счет этого. И от государства уже пять месяцев она пенсии не получает.

А в конце января Анна Владимировна пошла платить налоги, и ей сообщили, что прокурор закрыл ее частное предпринимательство. А самой ей не удосужились об этом сообщить. Мало того, что она потеряла все источники дохода, так еще и остался товар, который надо продавать. А продавать нельзя.

История эта пока не закончилась. Теперь Анна Владимировна приехала в Минск и обратилась в правозащитный комитет «Весна-96». Юристы комитета обещают помочь и защитить её от произвола провинциальной милиции.

**Алесь САДОВСКИЙ**

# Автомобиль послушен рулю. Через раз

Президентская «вертикаль», все это помнят, создавалась для того, чтобы установить порядок в стране снизу доверху. Чтобы чиновник, получив соответствующие полномочия, мог решить любую проблему.

Что же вышло из этой затеи? Наш повседневный опыт показывает: не много. Но интересно, что и сами чиновники районного масштаба не обольщаются на свой счет. К такому выводу приводит анализ результатов, полученных социологами.

Но начнем по порядку. По мнению опрошенных местных управленцев, очень важными для их района (города) являются, в порядке убывания, проблемы развития экономики, состояния здравоохранения, жилья, бедности, коммунального хозяйства и обеспечения общественного хозяйства. На эти «узкие места» указали более половины опрошенных (таблица 1).

И как же чиновники решают эти проблемы? Начнем с экономических, поскольку их признали самыми важными, а еще потому, что центральная власть уделяет им повышенное внимание и неусыпно контролирует. Так вот, эффективность экономических решений местных властей невысокая. Почти каждый второй респондент (48%) указал, что предпринимаемые действия по решению экономических проблем не принесли никакого эффекта. Как к этому относиться? Представьте, что вы едете в автомобиле, который слушается руля «через раз». Опасность такой ситуации понимают и чиновники, 6% которых признало, что за последние 2-3 года никаких действий по решению местных экономических проблем не предпринималось (таблица 2).

Еще меньшей эффективностью отличаются действия по борьбе с бедностью. Только 13% чиновников признали меры, принимавшиеся местными властями для помощи малоимущим, эффективными. В 57 случаях из 100 попытки помочь обездоленным, по мнению самих чиновников, оказались бесплодными, а 23% опрошенных отметили, что власти за последние 2-3 года вообще никак не боролись с обнищанием вверенного им населения. Хороша социальная политика?

И при этом большинство опрошенных считает, что местная «вертикаль» имеет достаточно возможностей и самостоятельности, чтобы эффективно действовать в большинстве сфер социальной и экономической жизни (таблица 3). На самом деле эти возможности не реализуются. Так, 53% участников опроса отметили, что не имеют никакого влияния на развитие сельского хозяйства, 42% — на развитие экономики, 48% — на решение жилищной проблемы. Конечно, каждый из них оценивал только свои собственные возможности исходя из предоставленных ему полномочий. Но не слишком ли много у нас чиновников, которые «ни на что не влияют» и, соответственно, ни за что не отвечают (таблица 5).

И наоборот, число «ответственных», считающих, что «имеют большое влияние» на решение различных проблем, колеблется, за редким исключением, около отметки в 10%. Выходит, что течение нашей повседневной жизни направляют не местные представительные и исполнительные органы власти, а небольшая группа лиц, узурпировавшая власть и выступающая от имени народа.

Местная власть вконец обюрократилась и, повторяя классика, страшно удалилась от народа. Так, за поддержкой непосредственно «к народу или гражданам в целом» руководители обращаются только в 12 случаях из 100. А в основном решают проблемы кулуарно: в самих органах власти, в кругу друзей. Очевидно, по принципу «ты мне, я тебе». Ни политические партии, ни профсоюзы, ни общественные организации и их лидеры авторитетом на местах не пользуются. Их поддержка и помощь бюрократу не нужна. Исключение в этом кругу местных элит составляют бизнесмены, за поддержкой к которым обращаются 8% руководителей (таблица 5).

Таким образом, бюрократов много, людей деятельных мало, решения принимаются кулуарно, управление социальными процессами неэффективно. А в целом местная властная вертикаль очень слабо влияет на течение реальной жизни. Может, оно и к лучшему? Иначе такого бы наворотили.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

**Республиканское социологическое исследование, направленное на изучение роли местной власти в социально-экономической жизни, проведено кафедрой социологии Белорусского государственного университета при содействии Института социальных и политических исследований при администрации президента РБ. Руководитель — Жанна Грищенко.**

*(По информации социологической службы «Зеркало» компании БелаПАН)*

**1. Как вы считаете, являются ли для вашего города (района) важными следующие проблемы? (в %)**

| | Очень важны | В определенной степени важны | Не являются важными |
|---|---|---|---|
| Развитие экономики | 84 | 12 | 1 |
| Здравоохранение | 74 | 23 | 1 |
| Жилищная проблема | 63 | 32 | 3 |
| Коммунальное хозяйство | 56 | 36 | 4 |
| Обеспечение общественного порядка | 56 | 37 | 3 |
| Бедность | 56 | 35 | 5 |
| Социальное обеспечение | 46 | 44 | 4 |
| Экология | 44 | 44 | 8 |
| Образование | 40 | 47 | 6 |
| Безработица | 38 | 49 | 8 |
| Отдых и культура | 28 | 60 | 7 |
| Расходы на содержание местных органов власти | 19 | 47 | 28 |
| Миграция в город (район) | 7 | 38 | 48 |
| Эмиграция | 2 | 21 | 69 |

**2. Насколько эффективными оказались предпринятые на протяжении последних 2–3 лет действия властей по решению следующих проблем? (в %)**

| | Были эффективные действия | Были действия, но не имели эффекта | Не было никаких действий |
|---|---|---|---|
| Образование | 58 | 31 | 6 |
| Жилищная проблема | 52 | 38 | 6 |
| Безработица | 45 | 42 | 7 |
| Социальное обеспечение | 44 | 43 | 7 |
| Развитие экономики | 40 | 48 | 6 |
| Обеспечение общественного порядка | 40 | 48 | 6 |
| Отдых и культура | 40 | 42 | 11 |
| Коммунальное хозяйство | 37 | 47 | 9 |
| Здравоохранение | 33 | 52 | 9 |
| Экология | 30 | 47 | 15 |
| Расходы на содержание местных органов власти | 23 | 38 | 27 |
| Межнациональные отношения | 16 | 20 | 53 |
| Бедность | 13 | 57 | 23 |
| Миграция в город (район) | 7 | 26 | 54 |

**3. Как вы считаете, имеет ли ваша местная власть достаточно возможностей и самостоятельности, чтобы эффективно действовать в следующих сферах? (в %)**

| | Имеет возможности | Не имеет возможностей |
|---|---|---|
| Отдых и культура | 83 | 14 |
| Борьба с преступностью | 76 | 19 |
| Образование | 75 | 21 |
| Коммунальное хозяйство | 67 | 27 |
| Охрана окружающей среды | 65 | 30 |
| Помощь малообеспеченным | 64 | 33 |
| Безработица | 62 | 34 |
| Развитие экономики | 58 | 36 |
| Социальное обеспечение | 57 | 38 |
| Здравоохранение | 53 | 42 |
| Жилищная проблема | 51 | 44 |
| Межнациональные отношения | 43 | 48 |
| Миграция в город (район) | 36 | 54 |

**4. Как вы оцениваете свое влияние на решение проблем вашей местности в следующих социальных сферах? (в %)**

| | Большое влияние | Некоторое влияние | Никакого влияния |
|---|---|---|---|
| Культура, отдых, спорт | 21 | 51 | 25 |
| Образование | 16 | 45 | 34 |
| Общественный порядок и безопасность | 13 | 47 | 36 |
| Жилье и жилищное хозяйство | 12 | 35 | 48 |
| Сервис и коммунальные услуги | 11 | 38 | 46 |
| Охрана окружающей среды | 10 | 53 | 32 |
| Развитие экономики | 10 | 44 | 42 |
| Социальное обеспечение | 10 | 35 | 50 |
| Здравоохранение | 9 | 40 | 47 |
| Трудоустройство | 8 | 48 | 39 |
| Сельское хозяйство | 8 | 32 | 53 |
| Деятельность политических организаций | 7 | 28 | 59 |
| Распоряжение общественными фондами | 4 | 20 | 70 |
| Мигранты | 2 | 16 | 75 |

**5. Если вы как руководитель оказываетесь в ситуации, когда нуждаетесь в поддержке своей деятельности, то к кому вы обращаетесь? (в %)**

| | |
|---|---|
| К местным исполнительным органам власти | 71 |
| К сослуживцам, коллегам | 55 |
| К друзьям | 51 |
| К местным представительным (районным, городским) органам власти | 46 |
| К представителям республиканского (областного) уровня власти | 29 |
| К местной печати | 21 |
| К народу или гражданам в целом | 12 |
| К местным комитетам самоуправления | 8 |
| К бизнесменам | 8 |
| К профсоюзам | 7 |
| К местным инициативным гражданским группам | 4 |
| К местным лидерам общественно-политических движений | 3 |
| К местным партийным лидерам | 2 |
| К религиозным лидерам, церкви | 2 |
| К партийным лидерам республиканского уровня | 1 |
| К местным политическим группам или партиям | 1 |

*Армия без мифов*

# Краснознаменная заложница



В заметке «Не легендарная и победимая», с которой я в целом согласен, есть ошибки. Нельзя с такой легкостью говорить, что в 1941 г. немцы «дали по зубам непобедимой и легендарной». Поражение армии в 1941 г. было следствием того, что с 1937 по 1940 год «легендарной и непобедимой» ломал кости Сталин. Было уничтожено 70 процентов офицерского корпуса Красной Армии, а среди высших офицеров уцелели единицы.

Не могу согласиться с автором, когда он называет Брестскую крепость как направление возможного удара противника. Оценивая обстановку, трудно найти хоть какие-либо приметы опасности с западного направления. Сегодня опасно противоположное направление, но армию не призовут стоять там на страже. Вообще непонятно, что сегодня охраняет наша армия. Независимую Беларусь? Если да — от кого? Где потенциальный противник? Украина? Польша? Литва? Россия? Латвия? NATO? Мне не хочется, чтобы мой сын проникся ностальгией по сильной державе, грозившей миру 27 тысячами ядерных боеголовок. Офицеры уходящего поколения привыкли стоять на страже «мира и социализма». Но меня и мою семью вполне устраивают просторы Республики Беларусь — 260 тысяч кв.км.

Во всем мире армии оказываются заложницами политики. У нас в Беларуси армия — заложница политики нашего президента (он же главнокомандующий). Завтра, после создания Союза России и Беларуси, наша армия в одночасье может превратиться во все тот же Краснознаменный БВО, очертания которого на карте будут дразняще напоминать выдвинутый вперед захваченный плацдарм.

Думаю, что правительство и президент Беларуси сделали бы умнее, если бы заглянули в будущее и объявили о неприсоединении ко всем военным и политическим союзам. В экономике, культуре, технологиях — пожалуйста. В остальном — нет. Беларусь — не Америка и не Россия, тут всего 10 миллионов населения. Наши 100 тысяч солдат, если их присоединят к российской армии, станут Белорусским корпусом, охраняющим конституционное пространство СНГ. Как это делается, мы знаем на примере Чечни. Мне не хочется, чтобы моя жена ездила отыскивать сына среди пленных в какой-нибудь аул за две тысячи верст от родного дома.

Геополитические интересы Беларуси не выходят за ее государственные границы. Как самостоятельное государство мы могли бы с течением времени изменить свою жизнь к лучшему, получить то, чего всегда у нас было мало, — признание соседей и самоуважение.

Пишу по-русски, чтобы прочитали и другие офицеры. По-белорусски не будут читать. Русский язык в армии считается главным и единственным, прочие имеют низший ранг.

**И.А.**, *майор*

**СТАРЫ АЛЬБОМ**



# «Самая гуманная прафесія»

...На ніжнюю і верхнюю сківаці сабакі накідваюць марлевую пятлю і сілай адкрываюць пашчу — на корань языка льюць канцэнтраваны воцат. Сабака задыхаецца ад болю і паміраe. А для вучоных-медыкаў гэта быў усяго толькі чарговы эксперымент: «Клініка-марфалагічныя паралелі пры смяротных атручваннях воцатам».



Здымак на інстытуцкім стэндзе для навучання «гуманізму».

Гэтыя жахлівыя доследы масава праводзіліся ў многіх медінстытутах былога Саюза. Хапала жахаў і ў Мінску. Скажам, калі студэнтам трэба было расказаць пра тое, як уплывае чэрапна-мазгавая траўма на ўтрыманне ў крыві перакісных злучэнняў, 28-мі сабакам — дзякуй Богу, пад наркозам! — ламалі сківвіцы і білі па галаве, каб выклікаць страсенне мозгу і не забіць. Як высветлілася, работа была не толькі жорсткай, а і бессэнсоўнай — гэты працэс быў ужо падрабязна даследаваны на клінічным матэрыяле ў хворых з чэрапна-мазгавой траўмай. Была нават напісана доктарская дысертацыя ў гэтым жа інстытуце...

Ці зможа будучы ўрач пасля такіх «эксперыментаў» быць нераўнадушным да чалавечых пакут і наколькі апраўдана гэтае дзікунства? Аб гэтым год таму ішла зацікаўленая размова на беларуска-брытанскім сімпозіуме «Этычныя правілы выкарыстання жывёлаў у навучальнай рабоце і навуковых даследаваннях». На сімпозіуме, у прыватнасці, адзначалася, што ў цывілізаваных краінах студэнты-медыкі авалодваюць тэхнікай апаратыўнай хірургіі на муляжах і камп'ютэрах, цудоўна вучацца перавязваць сасуды на плацэнце. У нас жа штогод — толькі ў адным медінстытуце — у час эксперыментаў гіне больш за сотню сабак.

Тады ўпершыню на Беларусі аднагалосна былі зацверджаны «Правілы гуманных адносінаў да эксперыментальных жывёлаў», створана спецыяльная экспертная камісія па выкарыстанні жывёлаў у навучальным працэсе і навуковай рабоце. На думку доктара медыцынскіх навук, прафесара, загадчыка кафедры агульнай хірургіі Мінскага медінстытута Рыгора Рычагова, у цяперашні час прымяненне натурных эксперыментаў на жывёлах для навучання студэнтаў і для вырашэння большасці навуковых праблемаў у медыцыне і хірургіі не адпавядае сучасным патрабаванням.

Мінуў год. Што змянілася за гэты час? «Часова дзікунскія эксперыменты прыпыненыя», — расказвае ініцыятар руху гуманных адносінаў да эксперыментальных жывёлаў, вядомая ў рэспубліцы і за яе межамі прафесар Мінскага медінстытута Таццяна Марозкіна. Дарэчы, на мінулым тыдні Т.Марозкінай і яе калегам была ўручаная Дзяржаўная прэмія Беларусі за работу «Рашэнне праблемы павышэння эфектыўнасці лячэння ракавых захворванняў», і прэміяльныя грошы прафесар Марозкіна пераявяла на рахунак фонду абароны жывёлаў.

Таццяна Марозкіна кажа: «Разумеюць глыбіню гэтай праблемы далёка не ўсе. Нядаўна зноў па інстытуцкім калідоры вялі на смерць прыгожага белага сабачку... Між тым у Еўрапейскай канвенцыі запісана: «Негуманныя, жорсткія адносіны да жывёлаў могуць выклікаць міжнароднае асуджэнне і ізаляцыю дадзенай краіны, нават калі не яна, а якія-небудзь асобныя грамадзяне злоўжываюць жывёламі, карыстаючыся адсутнасцю законаў ці нежаданнем уладаў сачыць за выкананнем адпаведных законаў».

**Святлана АЛЕКСАНДРОВІЧ**



# Заблудившиеся в «Соснах»

Обретя независимость, Беларусь выступила с инициативой создания «безъядерного пояса» в Европе. Она имела право этого требовать как государство, которому вдобавок к чернобыльским проблемам приходилось расхлёбывать последствия «стоянки» российского тактического оружия.

Безъядерной зоной Беларусь перестала быть в 1965 году — несмотря на то, что от проекта белорусской АЭС удалось отказаться. Атомная программа в нашей республике реализовывалась под большим секретом, ее осуществление имеет особенную специфику. Теперь нашей стране придется преодолевать ее последствия, хотя непосредственного отношения к атомным программам она не имеет.

## Начало

В 1965 году Советский Союз разместил под Минском «почтовый ящик», который должен был разрабатывать проблему «создания атомной электростанции нового типа». Правда, общественность узнала об этом только в 1991 году, после принятия декларации о независимости республики. Белорусские ученые рассказали, что авария на местном атомном объекте ставила бы под радиоактивную угрозу столицу республики — атомная станция расположилась всего в 9 километрах от Минска, в Соснах. К чести наших учёных, непоправимого не случилось.

Учёные занимались не только АЭС нового типа, получившей марку «Памир» (которая, кстати, так и не заработала как следует). Либо цель в процессе реализации трансформировалась, либо появились другие, побочные цели. Область работы Института ядерной энергетики (сейчас это Институт проблем энергетики Национальной Академии наук РБ) значительно расширилась: от испытания российского ядерного топлива до отработки новых типов реакторов. Да и «Памиров» было два — один отработал около 7.000 часов в разных режимах, второй просто смонтировали, только топливо не заложили.

В любом случае, Беларусь стала для СССР ядерным полигоном, на котором проводилась разработка и «обкатка» новых типов реакторов.

## Неудавшийся эксперимент

Экспериментальный передвижной реактор «Памир» разрабатывался как реактор маленького размера и малой мощности (всего 630 кВт). Малого размера добились за счёт удаления «лишних» элементов конструкции. Реактор получился одноконтурным с теплоносителем диоксидом азота.

Диоксид азота имеет ещё одно интересное свойство: смешиваясь с воздухом, он образует азотные и азотистые кислоты — отравляющие газы, смертельные для человека. Вдохнувшего подобную смесь человека спасти трудно. В Соснах был как минимум один смертельный случай с отравлением.

Этот реактор, так же как чернобыльский, имел способность саморазгона при повышении температуры в активной зоне. Минск вполне мог бы стать вторым (а точнее, первым) Чернобылем — так говорят многие из тех, кто имел отношение к «Памиру». В случае серьёзной аварии столица пережила бы настоящий ядерный взрыв, да еще и химическую атаку «в нагрузку».

Чего от этого реактора добиться не удалось — это выхода на запланированную мощность работы. Он не достиг даже номинального уровня экономичности — 9—10%. Ни одна система не заработала — это факт. Зато продукты коррозии забили каналы реактора, что привело к расплавлению и разгерметизации тепловыделяющих элементов и выхода продуктов деления во внешнюю среду. Только персонал спас Минск от большого ядерного выброса. В результате в 1988 году эксперимент был остановлен.

## «Разбитое корыто» по-белорусски

После остановки реактора в Соснах осталось отработанное ядерное топливо — 110 активированных тепловыделяющих сборок (ТВС). Уже 10 лет сборки хранятся на территории ИПЭ НАН РБ, в них идёт процесс распада ядерных материалов, и чем дольше они будут храниться, тем вероятнее появление разгерметизации. Две из них, кстати, уже прохудились. Поскольку в них возникла опасность выхода радиоактивности в окружающую их среду, сборки поместили в специальный «пенал». По мнению специалистов, ожидать крупной аварии не приходится, но лучше бы вообще избавиться от опасного имущества.

В Англии по закону такое отработанное топливо можно перерабатывать только через 130 лет хранения. Среднеевропейский срок — 50 лет. У нас безопасность на годы не считают: полностью безопасным топливо будет, когда в нём произойдёт десятикратный распад ядерных материалов.

Россия принимать сборки отказывается, прежде всего потому, что это уже не полезные вещества, а радиоактивный мусор. Если не активированные ТВС можно было держать в руках, то после активизации с ними можно работать только манипуляторами, транспортировать в определённых условиях и соблюдать нормы МАГАТЭ. Тем более, что российские хранилища заполнены примерно на 70%, а из этих сборок невозможно извлечь даже те 18 килограмм урана, которые там находятся. Просто потому, что не существует технологии извлечения. Кому интересно принимать радиоактивный мусор, если он может этого не делать?

Таким образом, Беларусь использовалась в качестве атомного полигона, а теперь получила свою ядерную свалку, содержание и охрана которой обходится государственному бюджету в кругленькую сумму.

Помимо отработанного топлива, Беларусь должна была еще решить проблему самого «Памира», а это несколько сот тонн получившего дозу облучения металла. Захоронили не оправдавший надежды реактор там же, в 9 километрах от Минска, в Соснах, но уже на другом предприятии. Оно занимается захоронением радиоактивных источников, использующихся в медицине и промышленности (всем известные рентген-кабинеты). ИЯЭ к этому хранилищу просто «примазался», заложив туда реактор и залив его бетоном (чем, кстати, переполнил хранилище) — общепринятая мировая практика. Этим Беларусь в своём роде просто уникальна: мы единственные в мире разобрали ядерный реактор до состояния «зелёного лужка». И то только потому, что хоронились не радиоактивные металлы, а материалы с «наведённой» радиоактивностью. Поэтому захоронение отвечает советским нормам безопасности.

## Заблудиться в Соснах

В конце прошлого года завершила работу Правительственная комиссия по оценке целесообразности развития ядерной энергетики в Республике Беларусь. Учёные приняли рекомендательное решение: в ближайшие 10 лет белорусскую АЭС строить не стоит. Этот результат можно считать победой учёных-«антиатомщиков», хотя они не добились главной цели — чтобы развитие атомной энергетики вообще признали «нецелесообразным». Атомные программы и в дальнейшем будут финансироваться, радиоактивные материалы будут ввозиться в Беларусь, и если кто-то снова откажется принять назад отработанное топливо — нам придётся делать ещё одно хранилище. В данный момент существует очень перспективное направление — реактор на фазовых переходах. При изменении параметров работы реактора (скажем, непредвиденный разгон), определённые части его меняют агрегатное состояние (например, жидкость становится льдом). Реактор не взорвётся, а просто замёрзнет.

В Японии и США есть определённый прогресс в этом направлении. Очень хорошая группа по моделированию таких реакторов работает у нас в Соснах. То есть, что ядерные эксперименты в 9 километрах от Минска будут продолжаться впредь.

**Сергей ПУЛЬША**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 502 Нумар падпісаны ў друк 26/01/99 (15:00) Наклад — 17.690